ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 20 (2422) 18 мая 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.




## СЛЁЗЫ І КВЕТКІ ПЕРАМОГІ

**Рэспубліка Беларусь на найвышэйшым дзяржаўным узроўні адзначыла 50-годдзе Перамогі. Адзначыла ў лепшых савецкіх традыцыях. У афіцыйных прамовах часта гучалі словы "савецкі народ". На вуліцах і плошчах і сталіцы, і абласных гарадоў, як і абяцаў Прэзідэнт ветэранам, былі толькі чырвоныя сцягі і гучала толькі руская мова. І яшчэ было многа партрэтаў генералісімуса.**

**Свята было сапраўды масавым і па-людску кранальным: людзі ўсіх узростаў, нягледзячы на халоднае надвор'е, сцякаліся 9 мая ў цэнтр Мінска, каб паглядзець на ваенны парад, якога не было ўжо з апошніх савецкіх гадоў. Мноства кветак лягло да помніка-абеліска на плошчы Перамогі. І былі сапраўдныя слёзы радасці на вачах ветэранаў, якія дажылі да 50-й гадавіны Перамогі. Да іх з боку ўлады на ўсіх яе вертыкалях было праяўлена максімум увагі. І гэта таксама выклікала слёзы, бо штодзённае жыццё не цешыць пакаленне пераможцаў. Яны дажываюць свой век у хваробах і амаль што галечы. Можа іх былы баявы дух падтрымаюць гарантыі Прэзідэнта: "Абяцаю, што як толькі мы крыху даб'ёмся паляпшэння, мы зробім усё, каб дапамагчы вам".**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).**

## ТРАНСПАРТНЫЯ МАГІСТРАЛІ ІНФАРМАЦЫІ

# BelABM: СТВОРЫМ КАМП'ЮТЭРНЫ СУСВЕТ

Успамінаючы... У ЗГАДВАЮЧЫ час сваёй працы ў Інстытуце фізікі -- адной з вядучых навукова-даследчых устаноў Акадэміі навук Беларусі можа трошкі болей за дзесяць гадоў таму, я бачу перад сабой велізарныя, аж на ўвесь пакой вылічальныя машыны, якія там тады выкарыстоўваліся. Недзе пару гадоў пазней, калі інстытут атрымаў першыя персанальныя камп'ютэры, супрацоўнікі збіраліся вакол шчаслівых уладальнікаў суперсучаснай на той момант тэхнікі, каб паназіраць, як яна працуе. Прайшло прыблізна дзесяць гадоў, і персаналкамі не здзівіш нават малога дзіцяці: яны спрытна ў камп'ютэрных гульяных перааДольваюць адзін лабірынт за другім і вывучаюць інфарматыку ў школе. Бясспрэчна, за апошнія гады камп'ютэрная вытворчасць Беларусі зрабіла беспрэцэдэнтны крок наперад, стварыўшы свой і далучыўшыся да міжнароднага камп'ютэрнага сусвету. Усё гэта стала магчымым, дзякуючы магчымасцям свабоднага прадпрымальніцтва, мастацтвам якога хутка авалодалі беларускія бізнесмены. Сёння ў Беларусі існуе шэраг прадпрыемстваў, якія прапануюць камп'ютэрную тэхніку і іншыя прафесійныя інфармацыйныя паслугі. Адметнае месца сярод іх займае Беларуска-брытанскае сумеснае прадпрыемства BelABM.

Кампанія была ўтворана ў сакавіку 1992 года па ініцыятыве цяперашняга яе генер ага дырэктара (ён да таго ч. выкладаў у Мінскім радыётэхнічным інстытуце, абараніў кандыдацкую дысертацыю і нават атрымаў кафедру) і яшчэ некалькіх яго калег.

-- За тры гады нашага існавання, -- кажа Валеры Віркоўскі, было рознае: добрае і дрэннае. У фірме сабраліся аднадумцы, але мы ўсе прыйшлі ў бізнес з дзяржаўных устаноў, а таму ніякага вопыту весці ўласную справу не мелі. Бізнес спачатку для нас выглядаў як хвалюючая прыгода, а спадзявацца вельмі часта даводзілася толькі на ўласную ініцыятыву. Цяпер, азіраючыся назад і маючы пэўныя вынікі, мы бачым, што накірунак быў выбраны правільна.

Трэба адзначыць, што лёс спрыяў СП BelABM з самага пачатку. Калі яшчэ толькі вяліся размовы па ўтварэнню фірмы, менеджэр "бацькоўскай" кампаніі ABM у Вялікабрытаніі, ігнаруючы жнівеньскі путч 1991 года, не пабаяўся і двума тыднямі пазней прыехаў у Мінск для перамоў, выказваючы такім чынам спадзяванне на хуткія змены ў Беларусі і давер да сваіх партнёраў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ*

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

Добры твар, шчырая ўсмешка, унутраны свет, высокая, хударлявая постаць, нешта палётнае, як у птушкі, калі ішоў па вёсцы, і бясконцая адданасць песні свайго народа -- вось толькі самыя вызначальныя рысы незвычайнага беларуса XX стагоддзя Генадзя Цітовіча, якому сёлета было б восемдзесят пяць гадоў.

Пешшу і па вадзе на чаўне ён пабываў ва ўсіх песенных куточках Беларусі. Пасля атрымання грунтоўнай адукацыі ў Віленскіх духоўнай семінарыі, універсітэце і кансерваторыі ён стаў руплівым, шчырым і высокакваліфікаваным збіральнікам і даследчыкам песень свайго народа, іх інтэрпрэтатарам спачатку ў заходнебеларускім ансамблі "Баян", з 1939 года ў фальклорным гурце Вялікага Падлесся на Ляхаўшчыне, а потым у Дзяржаўным хоры Беларусі з 1952 па 1974 год. Ён стварыў энцыклапедычную "Анталогію беларускай народнай песні" і грунтоўнае даследаванне "Аб беларускім песенным фальклоры". XX стагоддзе падарыла Беларусі Янку Купалу і Якуба Коласа ў літаратуры, Рыгора Шырму і Генадзя Цітовіча ў мастацтве.

## ДЗЯЦІНСТВА

Чатыры хацінкі было ў засценку Рэчкі, дзе 7 жніўня 1910 года ў хаце дзеда Фадзея Цітовіча нарадзіўся ўнук Генадзь. Перакананы, што выключныя здольнасці дзеда сыпаць жартамі, смешкамі-прыказкамі, прымаўкамі, жыццёвы аптымізм, стойкасць, кемлівасць і гумар перадаліся ўнуку, бо "хохмы" Цітовіча з "дваццаццю капейкамі" -- ганарарам за дасціпны жарт -- ведала ўся творчая інтэлігенцыя Беларусі.

Дзед, які адваяваў на лясных выгарках сабе лапік зямлі, кпіў: "Праўду кажуць людзі, што балота без чорта не будзе: вады -- хоць заліся, камення -- хоць забіся", але дадаваў: "Рабі пільна -- то і дома будзе Вільня, а ўсё-такі, хоць і галодны, але свабодны!"

Вялікая сям'я -- дзве дачкі і чатыры сыны -- дапамагала гаспадару. Самы меншы з іх Іван на медныя грошы бацькі, дзякуючы сваёй працавітасці і настойлівасці, атрымаў адукацыю і стаў працаваць настаўнікам у суседнім мястэчку Вішнева, дзе ажаніўся з такой жа настаўніцай Сусаннай. Іх сын Генадзь, якога ахрысцілі ў Новым Пагосце (цяпер Міёршчына), летам жыў у дзедавай хаце, а ўзімку на беразе маляўнічага Вішнеўскага возера ў бацькоў (адсюль, відаць, яго вялікая любоў да водных вандровак), а пазней у Дубатоўцы ля Смаргоні, куды пераехаў настаўнічаць бацька

**(Працяг на 7-й стар.).**



**НА ЗДЫМКУ: Генадзь ЦІТОВІЧ са сваёй будучай жонкай Вольгай СТРОК (злева) і яе сяброўкай Зояй КОСТКА.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

# ПАД УПЛЫВАМ КАМУНІСТАЎ

**З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.ЛУКАШЭНКІ на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 50-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.**

Цяперашні юбілей -- асаблівы. Падзеі апошніх гадоў, якія так крута змянілі пасляваенны свет, больш за ўсё, бадай, ударылі па тых, хто адстаяў яго ў страшнай схватцы з фашызмам, хто аддаў на алтар Перамогі ўсё самае лепшае і дарагое: маладосць, здароўе, родных і блізкіх людзей. Аддаў у імя лепшай будучыні сваёй Айчыны, у імя нашага жыцця. Вядома, было б намнога лепш, калі б гэты юбілей мы сустракалі ў адзінай, агульнай сям'і народаў, якая зусім нядаўна называлася Савецкім Саюзам. Але жыццё распарадзілася інакш. Аб'ектыўную ацэнку ўсяму таму, што адбылося, дасць час і гісторыя.

Акідваючы сваім позіркам падзеі Вялікай Айчыннай вайны, мы абавязаны ўлічваць рэаліі сённяшняга дня, паважаць жаданне народаў ведаць сваю гісторыю, ведаць праўду аб вайне. Кажуць, кожнае пакаленне пераасэнсоўвае гісторыю па-свойму. І ў гэтым ёсць рацыя, таму што чым далей адыходзіць ад нас тая ці іншая падзея, тым лепш яна відаць у гістарычным кантэксце.

Пераасэнсаванне гісторыі непазбежна, у тым ліку і ваеннай. Важна толькі, як гэта рабіць. Нельга ўглядацца ў гісторыю са злосцю, яна ўжо адбылася, яна вышэй за нас. На глыбокі жаль, у другой палове 80-х -- пачатку 90-х гадоў такое пераасэнсаванне часцей за ўсё зводзілася да таго, што ў ацэнцы падзей і працэсаў мінулага, асабліва савецкага, мяняліся знакі "плюс" на "мінус" і наадварот. Так не можа і не павінна быць. Нельга зневажаць цэлыя пакаленні суайчыннікаў дзеля сумніўных палітычных спекуляцый.

Мінулае народа патрабуе грунтоўнага і беражлівага, непаспешлівага і ўсебаковага аналізу. Толькі тады можна атрымаць аб'ектыўны вынік.

* * *

Вядома, у гады вайны, асабліва ў яе пачатку, і на фронце, і ў савецкім тыле, і на акупіраванай тэрыторыі ўсё было куды больш складана, і не так аднамерна, як гэта апісвалася ў афіцыйнай гісторыі і паказвалася ў афіцыйнай прапагандзе. Былі безадказнасць і бездапаможнасць органаў улады, самавольства, недасведчанасць і няўменне камандзіраў арганізаваць супраціўленне, выпадкі панікі і здрадніцтва і многае іншае.

Згубны ўплыў на ход падзей у пачатковы перыяд вайны аказалі зусім неапраўданая, даведзеная да абсурду цэнтралізацыя кіравання ўсімі бакамі жыцця велізарнай краіны, прадузятая адназначнасць у ацэнцы тагачасным кіраўніцтвам ваенна-палітычнай абстаноўкі і знішчэнне ваенных, гаспадарчых і іншых кадраў. Усё гэта было. Але ў святле гэтага яшчэ больш велічна выглядае Перамога. Хачу адназначна падкрэсліць: няма ў чым папракнуць ваеннае пакаленне. Тое, яно перанесла і зрабіла, заслугоўвае толькі аднаго -- захаплення і вечнай удзячнасці.

* * *

Унікальнымі старонкамі нашай айчыннай гісторыі ды, думаю, і сусветнай ваеннай гісторыі з'яўляецца партызанскі рух, які разгарнуўся ў Беларусі ўжо ў першыя месяцы акупацыі і працягваўся з усё нарастаючым размахам да самага апошняга яе дня. Гэта з -- наша нацыянальная гордасць. І нягледзячы на т што па гісторыі партызанскага руху ў рэспубліцы напісаны дзесяткі цікавых даследаванняў, гісторыкам яшчэ многае трэба будзе зрабіць па яго вывучэнню -- вывучэнню комплекснаму, усебаковаму, без палітычнай кан'юнктуры.

Адно толькі хачу сказаць у сувязі з гэтым: ніхто і ніколі не мае права чарніць гэты ўсенародны подзвіг. На жаль, такія мэтанакіраваныя спробы робяцца ў апошнія гады, у тым ліку і вядомымі ў рэспубліцы людзьмі. Партызанскі рух быццам бы ў ваенных адносінах не меў вялікага значэння. І ўвогуле ён быў інспірыраваны і кантраляваўся партыйнымі органамі і прысланымі з-за лініі фронту чэкісцкімі кадрамі. Ды і сотні вёсак немцы знішчылі толькі таму, што гэта было справакавана партызанамі. Некаторыя дагаварыліся да таго, што і намесніка Гітлера ў Беларусі В.Кубэ называюць інтэлектуалам, ледзь не дэмакратам, які быццам бы імкнуўся адрадзіць беларускую культуру.

* * *

Не маю права не сказаць і яшчэ аб адным: партызанскі рух у Беларусі, як і на акупіраванай тэрыторыі краіны ў цэлым, развіваўся пад арганізацыйным і ідэйным уплывам камуністаў. І абсалютная большасць народа і партызан верыла ім і ішла за імі. Так было, падабаецца гэта каму-небудзь ці не. За выключэннем некалькіх месяцаў канца 1941 і пачатку 1942 гадоў, калі сувязь з рэспублікай была страчана, увесь астатні час актыўную арганізатарскую работу на акупіраванай тэрыторыі вёў ЦК КП(б)Б, якім на працягу ўсёй вайны кіравалі П.К.Панамарэнка і П.З.Калінін. Адначасова яны ўзначальвалі, адпаведна, Цэнтральны і Беларускі штаб партызанскага руху.

* * *

Ёсць і яшчэ адна складаная праблема вайны. На працягу ўсяго перыяду акупацыі партызаны і падпольшчыкі вялі барацьбу з калабарацыяністамі. Аб гэтым даволі шырока вядома. Сёння, аднак, асобныя палітыкі, а то і вучоныя ставяць пад сумненне праведнасць барацьбы з палітычнымі калабарацыяністамі. Гэта значыць тымі, якіх у пасляваеннай літаратуры называлі беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі і якія супрацоўнічалі з акупантамі, быццам бы кіруючыся ідэяй беларускай дзяржаўнасці і развіцця беларускай культуры.

На жаль, як бы высакародна ні выглядалі іх суб'ектыўныя мэты і імкненні, аб'ектыўна ў тых умовах яны былі абсалютна утапічнымі. Іх барацьба супраць савецкай улады, партызан, Чырвонай Арміі і супрацоўніцтва ў гэтым з акупацыйнымі ўладамі нічога, акрамя дадатковых пакут і гора, нашаму народу не прынеслі. На нашу зямлю прыйшоў вораг, і супрацоўніцтва з ім апраўдаць нельга нічым. Сцвярджэнні ж, што яны, выкарыстоўваючы немцаў, змагаліся супраць савецкай акупацыі, сведчаць аб грэбаванні відавочнымі ісцінамі: беларускі народ успрымаў СССР як сваю Радзіму і Чырвоную Армію -- як сваю армію, армію-вызваліцельніцу.

*НА АФІЦЫЙНЫМ УЗРОЎНІ*

## СУСТРЭЧА З АМЕРЫКАНСКІМІ ЯЎРЭЯМІ



**У сталіцы нашай рэспублікі знаходзілася дэлегацыя прэзідэнтаў 50-ці буйнейшых і ўплывовых яўрэйскіх арганізацый ЗША, аб'яднаных у канфедэрацыю. 10 мая яе прыняў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. У час цёплай і дружалюбнай гутаркі кіраўнік урада праінфармаваў гасцей аб праведзеных напярэдадні ў рэспубліцы ўрачыстасцях, прысвечаных паўвекавому юбілею Перамогі над фашысцкай Германіяй. Ён выказаў надзею, што трагедыя, якая забрала мільёны людскіх жыццяў, ніколі больш не паўторыцца. Міралюбівы беларускі народ будуе дэмакратычную дзяржаву, у якой заканадаўча замацаваны правы ўсіх грамадзян, уключаючы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей.**

**З прамовай у адказ ад імя дэлегацыі на сустрэчы выступіў старшыня Канфедэрацыі прэзідэнтаў асноўных арганізацый амерыканскіх яўрэяў Лестэр Полак. Ён высока ацаніў ролю Савецкай Арміі ў перамозе над нацызмам і падрабязна расказаў аб задачах яўрэйскіх арганізацый па абароне правоў чалавека, забеспячэнню бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе і ва ўсім свеце.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы з амерыканскімі яўрэямі.**

*"Што датычыць патэнцыяльнай магчымасці супрацоўніцтва В. Кебіча і А. Лукашэнкі, то асабіста ў мяне гэта пытанне не выклікае ніякіх сумненняў: я заўсёды быў і буду гатоў дапамагаць маладому беларускаму Прэзідэнту, адкінуўшы ўсякія асабістыя амбіцыі.*

*Справа ў тым, што прынцыповых рознагалоссяў па пытаннях эканомікі або палітыкі ў мяне з А. Лукашэнкам ніколі не было. Менавіта па гэтай прычыне Аляксандр Рыгоравіч быў у свой час галоўным маім сапернікам на прэзідэнцкіх выбарах летам мінулага года. Падкрэсліваю: толькі па гэтай прычыне, ніякай іншай проста не існуе! Галоўнае значэнне мінулых выбараў не ў тым, што нар не выбраў прэзідэнтам В. Кебіча, і нават не тым, што прагаласаваў за А. Лукашэнку. А ў тым, што выказаўся супраць авантурыстычна-дылетанцкай ідэалогіі Беларускага народнага фронту, "пракінуўшы" яго лідэра З. Пазьняка. Гэта пацвярджае тое, што на другі тур выбараў прайшлі два кандыдаты -- В. Кебіч і А. Лукашэнка, палітычным антыподам якога ніколі не быў".*

*Вячаслаў КЕБІЧ,*
*былы прэм'ер-міністр Белаусі.*

*ЮБІЛЕЙ АРТЫСТКІ*



**Творчая біяграфія народнай артысткі Беларусі Стафаніі Станюты, якой нядаўна споўнілася 90 гадоў, -- цэлая эпоха ў нацыянальным тэатры. Больш сямідзесяці гадоў на сцэне, звыш сарака галоўных ролей у кінематографе -- з такім творчым багажом падышла актрыса да свайго 90-годдзя.**

**Таленту С. Станюты падуладныя любыя характары. На сцэне купалаўскага тэатра яна стварыла вобразы класічнага і нацыянальнага рэпертуару, камедыйныя і драматычныя. Несумненнай удачай актрысы стала і адна з апошніх ролей у спектаклі "Гаральд і Мод". Станюта-Мод сцвярджае, што няма месца старасці, калі ты малады душой.**

**Псіхалагічнай глыбінёй, яркім тэмпераментам вызначаюцца і ролі актрысы, створаныя ёю ў кіно. Гледачам розных пакаленняў запомніліся яе работы ў фільмах "Белыя Росы", "Мама, я жывы", "Атланты і карыятыды", "Развітанне з Мацёрай".**

**Стафанія Станюта стала легендай і гордасцю нацыянальнага мастацтва.**

**НА ЗДЫМКУ: Стафанія СТАНЮТА.**

*З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ БНФ*

## СТАЎКА НА РОЗУМ, ІНТЭЛЕКТ

**У штаб-кватэры БНФ адбылася прэс-канферэнцыя, падчас якой лідэры фронту выказалі свае меркаванні адносна парламенцкіх выбараў, рэферэндуму і ўвогуле палітычнай сітуацыі на Беларусі.**

**Закранаючы пытанне аб рэферэндуме, Зянон Пазьняк паведаміў, што Сойм Партыі БНФ прыняў ухвалу "Рэферэндум -- падман народа". У гэтым дакуменце, у прыватнасці, адзначана, што замена дзяржаўнай сімволікі прынясе нашай краіне не толькі падрыў міжнароднага аўтарытэту, але і матэрыяльныя страты ў аб'ёме 900 мільярдаў рублёў.**

**На пытанне карэспандэнта "Звязды", ці будуць дэпутаты ад апазіцыі БНФ прымаць удзел у рабоце старога парламента, калі выбары новага Вярхоўнага Савета не адбудуцца ў бліжэйшы час, Зянон Пазьняк адказаў наступнае:**

**-- БНФ ні пры якіх умовах не спыніць сваю палітычную і асветніцкую работу. Мы падрыхтаваны да розных варыянтаў. Мы робім стаўку на розум, на інтэлект, маральнасць, культуру.**

*СУМНЫЯ ЛІЧБЫ*

## КОСЦЬ ХВАРОБА

**У 1994 годзе ў Мінску адзначаўся рост смяротнасці ад туберкулёзу. Так, у 1993 годзе на 100 тысяч насельніцтва памерла 1,5 чалавека (усяго 38), у 1994 годзе -- 4 чалавекі (усяго 68 чалавек). Сярод памершых многія не значыліся на ўліку ў тубдыспансеры. Адзначаны таксама рост захворвання на туберкулёз сярод дзяцей: 115 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва ў 1990 годзе і 130 -- у 1994-м.**

*НА МЯЖЫ З ЛІТВОЙ*

## АШМЯНСКІ РАЁН -- ПАГРАНІЧНАЯ ЗОНА

**З 1 мая тэрыторыя Ашмянскага раёна аб'яўлена пагранзонай. У сувязі з гэтым сюды змогуць прыехаць толькі тыя, у каго тут жывуць сваякі. Набыць білет для паездкі можна будзе толькі пры наяўнасці адпаведнай даведкі. Той, у каго ў раёне жывуць блізкія сваякі, падобны дакумент атрымае тэрмінам на адзін год; той, у каго далёкія, -- толькі на месяц.**

*ВЫДАТКІ І ПРЫБЫТКІ*

## ПАЗВАНІЦЬ ПА ТЭЛЕФОНЕ

**З пачатку года тарыфы на паслугі сувязі ўзраслі ў 2,5 раза. У сакавіку, у параўнанні з лютым, -- у 1,5 раза.**

**У сакавіку ў 2 разы ўзрасла абанентная плата за хатні тэлефон, на 44,4 працэнта падаражэлі паслугі міжгародняй тэлефоннай сувязі, на 42 працэнты -- паслугі паштовай сувязі.**

**Згодна з данымі Мінстата краіны, прадпрыемствамі сувязі за 1 квартал было аказана паслуг насельніцтву на 128 мільярдаў рублёў, іх даходы склалі 447,2 мільярда рублёў.**

*ПРАЗ 50 ГОД*

## ПОМНІК А.ГАРАЎЦУ

**Толькі праз паўстагоддзя пасля Перамогі быў адкрыты ў Віцебску помнік аднаму з лепшых пілотаў свету -- Аляксандру Гараўцу.**

**28-гадовы ўраджэнец Сенненскага раёна, выхаванец Віцебскага аэраклуба, загінуў пад Белгарадам, знішчыўшы ў апошнім сваім баі адразу дзевяць самалётаў праціўніка. Такое не ўдавалася яшчэ ніводнаму паветранаму асу.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Як большасць прадпрыемстваў такога кшталту, BelABM пачало са зборкі і вытворчасці камп'ютэраў на базе імпартуючых прыстасаванняў. Але ўсяго толькі праз некалькі месяцаў пасля яе існавання кампаніі пашчасціла падпісаць два вельмі важныя кантракты з сусветна вядомымі камп'ютэрнымі магнатамі SEAGATE і FUJITSU, на падставе якіх яна стала паўнамоцным дыстрыб'ютэрам іх абсталявання і паслуг на тэрыторыі СНД.

-- Шчыра кажучы, тыя кантракты падаліся нам тады не па росту. Мы адчувалі сябе як хлопец, які абуў бацькоўскія боты і імкнецца ў іх пабегчы, -- працягвае свой расказ пра гісторыю



фірмы яе генеральны дырэктар. -- Але, з другога боку, было і пачуццё гонару: у нас паверылі, і мы ніяк ужо не маглі падвесці сваіх замежных партнёраў.

На самай справе вельмі хутка бізнес у кампаніі пачаў развівацца паспяхова і прыбыткова. Беларускі рынак толькі вітаў усю прапануемую тэхніку і паслугі, а зароблены грошы зноў укладаліся ў далейшае развіццё прадпрыемства. BelABM так захапілася справай, што, забыўшыся пра нядаўнюю насцярожанасць, у тым жа 1992 годзе падпісала яшчэ адзін, нават больш дзёрзкі кантракт з Sprint International Inc -- адным з самых буйных уладальнікаў міжнароднай інфармацыйнай сеткі, які мае ўласны трансатлантычны кабель, што злучае Амерыку і Еўропу. Хуткасныя і надзейныя паслугі сувязі карыстаюцца апошнім часам вялікім попытам ва ўсім свеце і ёсць вельмі прыбытковы бізнес. Але для Беларусі быў ён яшчэ дачасным. Амаль тры гады таму беларускія бізнесмены дрэнна ўяўлялі, які гэта крок наперад і якія выгады ён ім нясе.

Любая інфармацыйная сетка -- гэта высоканадзейныя, вельмі хуткасныя транспартныя магістралі інфармацыі, на падставе якіх можна пабудаваць бязмежную колькасць сервісных паслуг для кліентаў, а надалей ужо справа толькі прафесіяналізму і фантазіі саміх спажыўцоў, як і дзе іх выкарыстоўваць.

-- Калі мы ўзяліся за справу пашырэння інфармацыйнай прасторы ў Беларусі, мы не ўяўлялі, з якімі цяжкасцямі нам прыйдзецца сутыкнуцца. Усе сродкі сувязі былі манапалізаваны Міністэрствам сувязі і інфрматыкі Беларусі. Аж восем месяцаў спатрэбілася нам, каб распрацаваць шляхі супрацоўніцтва і падпісаць з ім пагадненне, -- гаворыць Валеры Віркоўскі. -- Але нават і пасля падпісання дамовы амаль цэлы год беларускі рынак яшчэ драмаў. Аднак, калі раптам побач пачынае расці гара, яе проста немагчыма не прыкмеціць. Вось і атрымалася, што калі рынак тэлекамунікацыйных паслуг пачаў развівацца ў Расіі, прачнуліся і падхапіліся беларускія спажыўцы.

Зараз нашы бізнесмены маюць магчымасць адчуць усе перавагі гэтай суперсучаснай высакаякаснай інфармацыйнай сувязі. Дагэтуль марныя іх намаганні часамі дасылаць факсавыя паведамленні ў аддзеглыя кропкі свету -- Туркменістан або Амерыку, з дапамогай Sprint -- тэлекамунікацый, мінуючы некалькі каналаў АТС агульнага карыстання, адразу без ніякіх перашкод дасягаюць абанента. Відавочна, гэта дазваляе значна скараціць затраты і час, пазбегнуць пэўных цяжкасцей у справе бізнесу.

Нездарма першымі кліентамі BelABM сталі прадстаўніцтва ААН у Беларусі, парламент, вылічальны цэнтр банкаў, Міністэрства замежных спраў, для якога распрацавана праграма падключэння ўсіх беларускіх пасольстваў і прадстаўніцтваў да ведамаснай электроннай пошты, што паспрыяе хуткаснаму і якаснаму забеспячэнню і абмену інфармацыі паміж імі і якая ўжо пачала выконвацца.

На падставе набытага вопыту і дзякуючы непасрэднаму супрацоўніцтву з

# BelABM: СТВОРЫМ КАМП'ЮТЭРНЫ СУСВЕТ

замежнымі партнёрамі, да спісу якіх яшчэ далучыліся такія сусветна вядомыя кампаніі, як COMPAQ, NOVELL, ALCATEL, VERIFONE і некаторыя іншыя, на сённяшні дзень СП BelABM дзейнічае як сістэмны інтэгратар, прапануючы ўвесь спектр інфармацыйных і тэлекамунікацыйных паслуг. Акрамя таго, што ў ёй можна набыць неабходную суперсу[illegible]чую тэхніку і запчасткі да яе, высо[illegible]аліфікаваныя спецыялісты фірмы зробяць экспертызу рэальных патрэб спажыўца ў вылічальных сродках, а таксама аптымізацыю іх колькасці і якасці. Яны распрацуюць і рэалізуюць праекты мясцовых вылічальных сетак з мэтай эканоміі ср[illegible]ў і часу, наладзяць інфармацы[illegible] паслугі адпаведна міжнароднаму ўзроўню. У выпадку неабходнасці існуе магчымасць арганізацыі ўласнай інфармацыйнай сістэмы, якая ўключае рэгіянальныя сеткі і нават ведамасную пошту, з далейшым яе пашырэннем на ўсю краіну і наступным інтэграваннем у міжнародныя сеткі перадачы інфармацыі.

Відавочна, што за апошнія дзесяць гадоў у Беларусі адбылася сапраўдная навукова-тэхнічная, або камп'ютэрная рэвалюцыя, якая дазволіла скараціць той неверагодны разрыў паміж нашай краінай і Захадам з 40--50 гадоў адставання да недзе ўсяго 5. Дакладныя навукі тым і адрозніваюцца ад грамадскіх, што вынікі іх адразу, як кажуць, можна "памацаць рукамі", а перавагі відавочныя. Менавіта таму сёння наўрад ці знойдзецца "прафесар" навуковай думкі, які б прымусіў адмовіцца ад усіх тэхнічных дасягненняў і сваёй пастановай забараніў бы іх, прапануючы зноў вярнуцца да тых старых нязграбных ЭВМ. Цешыць і тое, што людзі, якія працуюць над стварэннем камп'ютэрнага сусвету (а колькасць іх увесь час пашыраецца), маюць ужо зусім іншы менталітэт, а позірк іх накіраваны толькі наперад. І ёсць спадзяванне, што дзякуючы такім кампаніям, як BelABM, якая мэтанакіравана працуе над ўваходжаннем нашай дзяржавы ў адзіную сусветную камп'ютэрную інфармацыйную прастору, той прамежак паміж Беларуссю і Захадам зменшыцца яшчэ больш і не толькі ў сэнсе навукова-тэхнічнага прагрэсу, а і паўплывае на развіццё грамадскай думкі, набліжаючы тым самы дзень, калі наша краіна ў рэшце рэшт зойме сваё годнае месца сярод іншых краін і народаў як роўная сярод роўных.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# СЛЁЗЫ І КВЕТКІ ПЕРАМОГІ









(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Мінск, 9 мая 1995 года. Святкаванне 50-годдзя Вялікай Перамогі.**
**Здымкі зроблены фотакарэспандэнтамі "Голасу Радзімы" Віктарам СТАВЕРАМ і Белінфарма Віктарам ТАЛОЧКАМ і Аркадзем НІКАЛАЕВЫМ.**

*ВІНШАВАННЕ З УКРАІНЫ*

# ДЗЯКУЕМ ЗА ВАШУ ПРАЦУ

Сардэчна віншую ўсіх вас і народ Беларусі з 50-годдзем Вялікай Перамогі. Пасля жорсткай вайны з фашыстамі беларусам дорага абышлася гэтая Перамога -- жыццём кожнага 4-га чалавека.

Ад ўсёй душы жадаю нашаму шматпакутнаму беларускаму народу міру і згоды, вечнага міру нашай беларускай зямлі, працвітання і шчасця. Жадаю ўсяму калектыву рэдакцыі моцнага здароўя, добрага святочнага настрою і вялікіх творчых поспехаў ва ўсіх вашых справах. Праз вашу газету беларуская дыяспара даведваецца аб многіх навінах. Пажадана, каб раздзел "Падзеі, людзі факты" не ліквідоўваўся і кожны артыкульчык павялічыць у аб'ёме. І яшчэ адна просьба да газеты: надрукуйце артыкул пра Ф.Скарыну з абавязковым змяшчэннем яго партрэта, гэтага просіць мастакі.

Дзякуй вам за змястоўную газету, дзякуй за вашу працу.

**Валянцін СТРЫБУК,**
**ураджэнец Гомельскай вобласці Брагінскага раёна, цяпер маёр у адстаўцы.**

Львоў.

## ГЭЙ, НАВАГРАДЦЫ!

# ЗВАРОТ

## ДА ГРАМАДСКАСЦІ БЕЛАРУСІ І ЗАМЕЖЖА

У кожнага народа ёсць мясціны вячыстай славы, своеасаблівыя святыні. Для беларусаў гэта найперш Полацак, Тураў, Наваградак, Вільня, Горадня, Нясвіж, Менск...

Магутны калісь і слаўны на ўсю Еўропу Новагародак сёлета адзначае сваё 950-годдзе. З гэтым юбілеем лучацца іншыя, таксама значныя: 400-годдзе надання гораду другога, пасля "Пагоні", герба, круглыя гадавіны Міра, Мірскага замка і Карэліч, а таксама 400-годдзе запачаткавання на Наваградчыне прафесійнага тэатра на Беларусі.

У старажытным Новагародку, на маляўнічай узгорыстай мясцовасці, былі закладзены падваліны абсяжнай ад Балтыкі да Чорнага мора і магутнай дзяржавы сярэднявечча -- Вялікага Княства Літоўскага, аснову якога складалі ліцвіны, якіх пазней пачалі называць беларусамі. ВКЛ -- супольная Айчына некалькіх народаў, якія развіваліся кожны на сваім этнічна-духоўным грунце. Пераважнымі па колькасці былі беларусы, мова якіх стала дзяржаўнай. На ёй размаўляў просты люд і велікакняжацкі двор, стваралася рэлігійная і свецкая літаратура, пісаліся законы, у тым ліку і найвышэйшы -- Статут Вялікага Княства Літоўскага ў некалькіх рэдакцыях.

Будучы сталіцай, старадаўні Новагародак адыграў вялікую ролю і як цэнтр рэлігійнага, духоўнага жыцця. Там, дзе сёння вёска Лаўрышава, вялікім князем Войшалкам быў заснаваны манастыр, які з-за сваёй значнасці набыў статус Лаўры. У яго сценах было напісана, арыгінальна і шыкоўна аздоблена Лаўрышаўскае Евангелле, якое цяпер як бясцэнная рэліквія захоўваецца ў кнігазборах Кракава.

Сваё культурнае, рэлігійнае і адміністрацыйнае значэнне Новагародак утрымліваў і пасля таго, як Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае пайшло на саюз з Польшчай і паступова страчвала самастойнасць, а з ёю і гаспадарчую, духоўную і вайсковую моц. У той час горад быў цэнтрам Наваградскага ваяводства, якое абдымала велізарны абшар, куды ўваходзілі Слонім, Ваўкавыск, Нясвіж, Стоўбцы, Слуцак, Ракаў, Ашмяны -- тэрыторыя, што належала колісь да Новагародскай зямлі і княства.

Наваградчына з'яўляецца таксама калыскай татарскай і яўрэйскай культуры. Тут будаваліся мячэці, пісаліся свяшчэнныя мусульманскія кнігі на беларускай мове "Аль-Кітаб", тут узгадаваўся славуты яўрэйскі вучоны-мовазнаўца, аўтар падручнікаў яўрэйскай мовы, першага англа-іўрыцкага слоўніка Аляксандр Гаркаві, імем якога названы яўрэйскі універсітэт у Санкт-Пецярбургу. Значны след у культуры пакінуў граф О-Рорк, ірландзец па паходжанні, які жыў у маёнтку ва Уселюбе. У радавой сядзібе ў Шчорсах пераважную частку жыцця правodзілі графы Храптовічы, уладальнікі не толькі велізарных зямельных абшараў у Беларусі і за мяжой, але і найбагацейшай бібліятэкі, кнігі з якой у першую сусветную вайну былі перавезены ў Кіеў і пакуль што застаюцца там.

Нямала славутых сыноў і дачок з Наваградчыны жыве ў блізкім і далёкім замежжы. Гэта старшыня Рады БНР, доктар медыцыны Язэп Сажыч (ЗША), прафесар матэматыкі, акадэмік астранаўтыкі Барыс Кіт (Нямеччына), рэдактар газеты "Беларус", доктар гісторыі Янка Запруднік, мастачкі Галіна Русак і Тамара Стагановіч, доктар медыцыны Уладзімір Набагез, міністр урада БНР, грамадскі і царкоўны дзеяч Кастусь Мерляк (ЗША), намеснік старшыні БНР, доктар медыцыны Барыс Рагуля (Канада), кіраўнік беларускага зямляцтва і радыё ў Перце Міхась Раецкі, архітэктар Мікола Сазановіч (Аўстралія), старшыня Хаўруса беларусаў Францыі, мастак і скульптар Міхась Навумовіч...

Нямала, не кажучы пра саму Беларусь, заслужаных людзей з Наваградчыны жыве і ў блізкім замежжы. Пералічыць іх няма магчымасці, таму назавём толькі некалькіх. Гэта навуковец, аўтар кнігі "Палата рукапісная" Мікола [illegible]лаеў, загадчык кафедры бельнай медыцыны, доктар навук, прафесар Мікалай Гурын, хірург Ваенна-медычнай акадэміі, доктар навук Міхась Ханевіч (Санкт-Пецярбург)...

Спадзяёмся, што землякі здалёк і зблізку (а гэта не толькі беларусы, а прадстаўнікі іншых народаў), дружна збяруцца летам адзначыць юбілей дарагога ўсім Наваградка, іншыя даты. Напэўна, што будзе шмат чаканых і нечаканых, радасных і карысных сустрэч і знаёмстваў. Але сэнс Першага з'езда наваградцаў свету не толькі ў гэтым, але і каб супольна падумаць, паразважаць над гісторыяй і будучыняй, сучасным станам роднай Наваградчыны, над тым, чым і як можна ёй дапамагчы ў гэты благі, неакрэслены для Бацькаўшчыны час...

Свята, такім чынам, мяркуецца праводзіць не як вузка рэгіянальнае, мясцовае, а агульнабеларускае, бо тое, што перажывае сёння Наваградчына, -- уласціва і ўсёй Беларусі.

У першы дзень, 24 чэрвеня, у рамках З'езда наваградцаў плануецца правесці навукова-асветную канферэнцыю аб ролі краю і яго людзей у развіцці нашай дзяржаўнасці, мовы, культуры, аб іх укладзе ў сусветную цывілізацыю. Тут будзе зацікаўленая гаворка пра стан і захаванне гістарычных помнікаў, пра ахову прыроды і збярэжэнне унікальнага асяроддзя, пра тое, як уваходзіць, асабліва ў горадзе, у побыт наша мілагучная мова. Хочацца спадзявацца, што Наваградчына, якая была калыскай беларускай дзяржаўнасці і праз вякі паказвала прыклад гераічнага адстойвання нацыянальных інтарэсаў, і ў наш час здолее стаць асяродкам сапраўднага, а не фармальнага Адраджэння Беларусі ў цэлым. Вечарам, у гэты ж дзень, будзе тэатральнае прадстаўленне, а потым -- Купалле.

Другі дзень, 25 чэрвеня, цалкам святочны. Спадзяёмся, ён узрыме наш дух эмацыянальна, бо культурна-мастацкая праграма рыхтуецца унікальная і шматстайная, як унікальным і шматстайным было развіццё Наваградчыны праз вякі. Гэтую ідэю павінен падмацаваць і кірмаш вырабаў народных умельцаў, а таксама выстаўка твораў прафесійных мастакоў.

Для ахвочых па папярэдніх заяўках наладжваецца некалькідзённая вандроўка па славутых мясцінах Беларусі.

Між тым падрыхтоўка і правядзенне юбілею звязана са значнымі, нават вялікімі матэрыяльнымі і фінансавымі цяжкасцямі і выдаткамі, якіх, само сабой зразумела, не можа адолець маладая грамадская арганізацыя -- Згуртаванне наваградцаў свету, якое ўзяло на сябе ініцыятыву ў правядзенні ўсіх мерапрыемстваў. Спадзяёмся на дапамогу, хоць пакуль што слаба яе адчуваем з боку дзяржавы і яе структураў, якія дзейнічаюць у неспрыяльным для нашай гісторыі і культуры, увогуле для нацыянальнай ідэі рэжыме.

І ўсё ж мы не можам па гэтай прычыне абмінуць такую дату нашай гісторыі, як 950-годдзе першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага -- слаўнага горада Наваградка, дзе не толькі выток, але і вяршынны ўзлёт нашай дзяржаўнасці, народнай душы і духу. Гэта было б найгоршым сведчаннем бяспамяцтва, бязглуздай абыякавасці да таго, чым можа ганарыцца любая еўрапейская нацыя. Спадзяёмся, што наш Зварот будзе з разуменнем успрынняты дзяржаўнай уладай, знойдзе станоўчы водгук у дабрачынных фондаў, камерцыйных структураў і прыватных асобаў, карацей кажучы, ва ўсіх, хто мае сродкі і ласкава пагодзіцца дапамагчы нам.

Наш Р/р 1468693 у Цэнтральным аддзяленні АК БелПББ г. Мінска. Код 362.

Усіх, хто цікавіцца пытаннямі святкавання юбілейных датаў Наваградчыны, правядзення Першага з'езда наваградцаў свету, просім звяртацца на адрас:

**Рэспубліка Беларусь, 220053, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52-9, тэл./факс 37-05-44 (х), 23-98-51 (сл.). ЛЕЦКУ Яўгену -- старшыні Рады ЗНС.**

**231400, Наваградак, вул. Гродзенская, 2, тэл. (0597)-2-14-70 (сл.). ВЯРШЫЦКАЙ Тамары -- старшыні Управы ЗНС.**

**Адказны за правядзенне канферэнцыі дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі КАСЦЮК Міхаіл Паўлавіч.**

**220072, Мінск, вул. Францішка Скарыны, 1, тэл. 39-48-70 (сл.).**

Жадаем усім, хто дбае пра дабро Беларусі, усяго найлепшага ў гэтыя прыгожыя травеньска-чэрвеньскія дні. Да сустрэчы на любай сэрцу Наваградчыне, калі яснае сонейка ўздымецца найвышэй над любай старонкай. Хай гэта станецца добрым знакам нашага Адраджэння!

Жыве Беларусь!

**АРГКАМІТЭТ.**



## ПРАПАНУЕМ ВАМ, ШАНОЎНЫЯ СЛУХАЧЫ, НАШЫЯ ПАСТАЯННЫЯ ПЕРАДАЧЫ

**Агляд тыднёвіка беларусаў у Польшчы "НІВА":**

панядзелак 16.30 і аўторак 14.30.

**Эканамічны блёк-бізнес, банкі, Варшаўская Акцыянерная [illegible]ка, курсы валютаў, эканамічнае супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі:**

аўторак 19.00 і серада 14.30.

**Культурныя актуальнасьці -- тэатральныя прэм'еры, выставы, сустрэчы з польскімі і беларускімі мастакамі, кін[illegible] [illegible]ніжкі:**

серада 16.30 і чацьвер 14.30.

**Навукова-тэхнічная перадача -- досьледы знакамітых навукоўцаў, тэхнічныя ізюмінкі, недаступнае:**

чацьвер 19.00 і пятніца 14.30.

**Гутаркі Сакратара Яновіча "Ад Бібліі да беларускае літаратуры":**

субота 19.00 і нядзеля 14.30.

**Рэлігійныя гутаркі айца Уладзіміра Місеюка:**

нядзелі 14.30.

**Беларускі літаратурны рух у Польшчы -- гутарка Алеся Барскага:**

нядзеля 18.00 і панядзелак 14.30.

**Усё гэта пераплеценае цікавай музыкай: гэтак класічнай, як і лёгкай.**

**Прыпамінаем наш адрас:**
**Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё 00-977. Варшава, паштовая скрынка 46, Польшча.**

**"Голас Радзімы" выказвае шчырую падзяку за ахвяраванні на падтрымку выдання, якія мы атрымалі**

**з Англіі ад**
**ВЕСЯЛОЎСКАГА Ю. -- 20 фунтаў стэрлінгаў;**
**БУДКЕВІЧА С. -- 20 фунтаў стэрлінгаў;**
**БАЯРОЎСКАГА М. -- 40 фунтаў стэрлінгаў;**
**РАЖАНЦА А. -- 20 фунтаў стэрлінгаў;**
**ГАТКОВІЧА А. -- 50 долараў;**
**ЛАШУКА А. -- 20 фунтаў стэрлінгаў;**

**з Францыі ад**
**ЗАНКОВІЧА Т. -- 40 долараў;**
**НАВУМОВІЧА М. -- 100 долараў;**
**ШЫМАНЦА Л. -- 50 долараў.**

## З БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### ПАМЁР "МАСТАК СТАГОДДЗЯ"

З Англіі, ад сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў князя Анджэя Цеханавецкага, прыйшла сумная вестка: 28 студзеня 1995 года ў лонданскім хоспісе святога Кшыштафа ва ўзросце амаль 94 год памёр мастак і вучоны Мар'ян Богуш-Шышка. Нарадзіўся ён у маёнтку Трокенікі на тэрыторыі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці 16 лютага 1901 года. Бацькі яго былі ўладальнікамі маёнтка, людзьмі заможнымі і далі свайму сыну добрую адукацыю. Натхнёны прыгажосцю навакольных краявідаў, пачаў ён маляваць ва ўзросце чатырох гадоў. Закончыўшы гімназію, Мар'ян Богуш-Шышка тры гады вывучаў мастацтва ў Віленскім універсітэце і чатыры гады -- у Кракаўскай акадэміі. Потым выкладаў маляванне ў Настаўніцкай семінарыі. Акрамя жывапісу яго цікавіла таксама матэматыка: у гэтай галіне ён здабыў навуковую ступень і выдаў кніжку.

У 1939 годзе нашага земляка мабілізавалі ў польскую армію. Ён удзельнічаў у вайне з нацыстамі. Трапіўшы ў палон, да 1945 года знаходзіўся ў нямецкіх лагерах для ваеннапалонных. У маі 1945 года, пасля вызвалення, трапіў у Італію, дзе арганізаваў курсы па гісторыі мастацтва, вучыў моладзь жывапіснаму майстэрству. З 1946 года жыў у Англіі, кіраваў там Школай мальбертнага жывапісу, якую скончылі многія славутыя майстры. Сям'я ж засталася ў Кракаве: сын Анджэй цяпер там прафесар педагагічнай псіхалогіі, а ўнучкі паспяхова скончылі Акадэмію мастацтва.

Як відаць з артыкула Войцеха Фалькоўскага "Мар'ян Богуш-Шышка -- мастак стагоддзя", змешчанага 11 сакавіка 1995 года ў лонданскай газеце "Тыдзень Польскі" (ксеракопію артыкула прыслаў А.Цеханавецкі), Мар'яна Богуша-Шышку асабліва цікавіла рэлігійна-біблейная праблематыка. У творах на гэтую тэму, асабліва пра ўкрыжаванне Хрыста, ён дасягнуў значных мастацкіх вышыняў. У карцінах нашага земляка, паводле В.Фалькоўскага, "вонкавае святло, што падае на палатно, адбіваецца, амаль праменіцца святлом унутраным. Матэрыял ператвараецца ў святло". Каля 60 такіх твораў знаходзяцца якраз у хоспісе святога Кшыштафа, дзе памёр мастак. Загадвае гэтым прытулкам удава Мар'яна Богуша-Шышкі Сіслі Сондар, ганаровы доктар многіх англійскіх і зарубежных універсітэтаў і пачынальніца сучаснага хоспіснага руху.

Нашаму земляку прысвечана спецыяльная манаграфія, выдадзеная ў Англіі ў 1977 годзе, два фільмы (аўстрыйскі і польскі), доктарская дысертацыя. Бібліяграфія яго навуковых твораў прыведзена ў "Слоўніку польскіх пісьменнікаў на чужыне". У ёй указаны кнігі "Пра мастацтва" (Лондан, 1982), "Леанарда да Вінчы" (Кент, 1953), праца "Нарыс гісторыі выяўленчага мастацтва на землях Вялікага княства Літоўскага".

Ацэньваючы мастацкую творчасць Мар'яна Богуша-Шышкі, славуты англійскі крытык Эрык Ньютан назваў яго ў 1959 годзе "мастаком стагоддзя". З такой ацэнкай пагаджаецца і Войцех Фалькоўскі. "Наступныя пакаленні, -- дадае ён, -- напэўна належным чынам ацэняць гэтага майстра".

Мастацкая спадчына Мар'яна Богуша-Шышкі мае асобую цікавасць для яго землякоў у сувязі з тым, што ў Трокеніках ёсць дом, у якім нарадзіўся і жыў мастак. Ён з'яўляецца помнікам архітэктуры XIX стагоддзя, добра захаваўся (разам з паркам), але цяпер пустуе. Праўленне мясцовага калгаса выказвае жаданне стварыць у ім галерэю з твораў свайго земляка -- вядома, калі яны паступяць з Англіі і Польшчы.

### ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ БАРЫСУ КІТУ

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны правялі вечарыну, прысвечаную 85-годдзю нашага знакамітага суайчынніка прафесара Барыса Кіта, які цяпер жыве ў Германіі. Акрамя вядучых, Ганны Сурмач і Адама Мальдзіса, слова бралі акадэмік Радзім Гарэцкі і рэктар Беларускага універсітэта культуры Ядвіга Грыгаровіч, аўтар кнігі пра юбіляра Лідзія Савік і былы пасол Беларусі ў Германіі дэпутат Вярхоўнага Савета Пятро Садоўскі, пісьменнікі Вольга Іпатава і Арсен Ліс. Гучалі вершы, прысвечаныя Барысу Кіту, беларускія народныя песні. Юбіляру было падрыхтавана спецыяльнае пасланне.

У час вечарыны мастак Сяргей Крыштаповіч перадаў для музейнай экспазіцыі "Беларусы ў сьвеце", што дзейнічае ў цэнтры, 17 твораў беларускай мастачкі Тамары Стагановіч, якая цяпер жыве і творыць у ЗША.

### ДЫСКУСІЯ ВАКОЛ ПУБЛІКАЦЫЙ ЛІТОЎСКАГА ДРУКУ

У апошні час увагу беларусістаў прыцягнулі артыкулы Э.Гудавічуса і А.Бучыса, якія з'явіліся ў літоўскіх газетах. Скіраваны гэтыя публікацыі супраць прац беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча, яго канцэпцыі ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага.

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны адбыўся "круглы стол", дзе была абмеркавана пазіцыя літоўскіх аўтараў. Анатоль Сідарэвіч, Вячаслаў Насевіч, Георгій Галенчанка, Вячаслаў Чамярыцкі, Вячаслаў Рагойша і іншыя гаварылі аб двух падыходах да мінулага -- "рамантычным" і "рэалістычным", якія не выключаюць адзін аднаго. Адзначаліся некарэктныя, неканструктыўны тон літоўскіх публікацый, асобныя пралікі ў беларускай канцэпцыі. У заключэнне выступіў Мікола Ермаловіч (запрошаны на абмеркаванне Э.Гудавічус прыехаць не змог).

### ЛІСТ НАШЧАДКА СКАРЫНЫ

У адрас Міжнароднага камітэта беларусістаў прыйшоў ліст ад Ежага (Юрыя) Скарыны, які жыве ў Мексіцы, але памятае пра "зямлю свайго прабацькі". Да ліста прыкладзены ксеракопіі артыкулаў з газеты "Эль геральдо дэ Мехіко". Ежы Скарына прысвяціў іх унутранаму становішчу ў Беларусі, яе знешняй палітыцы.

**Алеся БЕЛАВУСАВА.**

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЁН БЫЎ ШЧЫРЫМ БЕЛАРУСАМ



Заходняя Беларусь мела ў свой час двух Станіславаў Грынкевічаў. На жаль, у жывых іх даўно няма. Малодшы Станіслаў Грынкевіч быў шчырым беларусам, памёр на эміграцыі ў Амерыцы. Яго дзядзька Станіслаў Грынкевіч -- больш яркая і таленавітая постаць, якая пакінула значны след у гісторыі беларускай літаратуры і медыцыны.

Нарадзіўся Станіслаў Грынкевіч (старэйшы) 2 лютага 1902 года ў мястэчку Новы Двор былога Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Спачатку вучыўся ў вясковага настаўніка, які яго і рыхтаваў да экзаменаў у гімназію. У 1912 годзе Стась Грынкевіч здаў экзамены і быў залічаны ў Гродзенскую дзяржаўную мужчынскую гімназію ў першы клас.

Калі пачалася першая сусветная вайна, С. Грынкевіч разам са сваім стрыечным дзядзькам выехаў у Смаленскую губерню. Там скончыў сем класаў, а праз пэўны час зноў вярнуўся ў родную вёску, дзе пачаў рыхтавацца да паступлення ва універсітэт.

Здаўшы паспяхова экзамены, Станіслаў Грынкевіч паступіў у Віленскі медыцынскі універсітэт. Але па сямейных абставінах заканчваў яго ў Познані. Да 1935 года працаваў у медыцынскай клініцы, пасля -- у псіхіятрычнай клініцы ў Харошчы каля Беластока. Працаваў таксама ардынатарам аддзела нервовых хвароб, адначасова вёў лабараторныя доследы і пісаў пра іх працы. Займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю: перакладаў на беларускую мову медыцынскія працы з іншых моў і рэлігійныя творы.

У гэты час ён рэгіструе шлюб з польскай лекаркай стаматалогіі. У сваім шчаслівым жыцці яны мелі двух сыноў і дзве дачкі. Жонка Ядвіга Грынкевіч, як і яе муж Станіслаў, апрацоўваг лекарскія парады па-беларуску і нават сам пісала артыкулы на медыцынскія тэмы. У Вільні выходзяць іх сумесныя кнігі "Рады хворым і здаровым" (1935 год), "Алкагалізм" (1938 год), "Умовы і загады, неабходныя для здароўя" (1939 год) і іншыя.

У пачатку 1937 года Станіслаў Грынкевіч з сям'ёй пераехаў у Вільню. Тут уладкаваўся на працу ў першую Віленскую паліклініку. Меў свой дом, агарод, сад. Адсюль пісаў артыкулы ў розныя беларускія часопісы. Яны з'яўляліся ў "Студэнцкай думцы", "Крыніцы", "Заранцы", "Калосьсях" і ў іншых выданнях. Ён любіў ездзіць па беларускіх вёсках, сустракацца з людзьмі, якім чытаў папулярныя лекцыі па гігіене, медыцыне і гісторыі. У 1936 годзе С. Грынкевіч выдаў брашуру "Асьвета". На жаль, польская паліцыя яе канфіскавала, аўтар адсядзеў два тыдні за кратамі і атрымаў штраф.

У 1937 годзе, пасля падарожжа на Украіну, ён напісаў і выдаў новую брашуру "У братоў украінцаў". Наогул, доктар медыцыны Станіслаў Грынкевіч пісаў шмат. Адны назвы ягоных артыкулаў гавораць самі за сябе, гавораць аб тым, які гэта быў адукаваны і разумны чалавек. Вось, напрыклад, некалькі назваў ягоных прац: "Аб тэатры" (1927 год), "Царква. Помста. Вязьніца" (1928 год), "Народ" (1927 год), "Капля вады" (1927 год), "Як лячыць хваробы хатнім спосабам" (1927 год) "З зацемак аб характары беларусаў" (1935 год), "Аб праве да бацькаўшчыны" (1936 год), "Гігіена псіхічная, як праблема асноўных адносінаў да жыцця" (1937 год) і многія іншыя.

Пісаў С. Грынкевіч і драматычныя творы. У 1927 годзе ў Вільні асобным выданнем выйшла з друку яго п'еса ў трох абразах "Жанімства па радыё". Гэта бытавы драматычны твор, які расказвае пра жыццё і справы беларускіх вяскоўцаў.

У беларускім эміграцыйным рэлігійным часопісе "ZNIC" (1973 год, N 117) змешчаны ўспаміны А. Валтупскага, дзе аўтар, у прыватнасці, піша: "За два дні перад прыходам у Літву вайсковых савецкіх сіл я адведаў у Ерузалімцы Грынкевічаў. Прынагодна спаткаў у іх і друкара Скарынаўскай друкарні ў Вільні Альфонса Шутовіча. Я стаяў на тым становішчы, што беларусам-незалежнікам, перадусім інтэлігенцыі, трэба падавацца на Захад, бо бальшавікі зьліквідуюць усіх пагалоўна. Што пазьней сталася. Ядвіга Грынкевіч, частуючы нас забеленай зацеркай, катэгарычна абвясьціла: "Стась нікуды ня будзе ўцякаць ад сям'і перад акупацыяй, ён ня мае ніякага праступку перад законамі акупантаў, бо ён не савецкі грамадзянін. Яны за перадваенную беларускую дзейнасьць ня могуць мець ніякага права караць. Зрэшты, бальшавікі тут не астануцца, яны прагоняць гітлераўцаў і пасьля адступяць за старыя граніцы, пакідаючы Польшчы тыя ўсе землі, што належалі ёй перад вайною".

Нічога, аднак, не зьдзейсьнілася з таго, у што верыла Ядвіга Грынкевіч. На трэці дзень пасля заняцьця Вільні і ваколіц савецкімі збройнымі сіламі да Грынкевічаў зьяўляецца ўзброеная контрразьведка і арыштоўвае доктара С. Грынкевіча...".

Пасля яго арышту былі канфіскаваны дом і ўся маёмасць. А самога спадара С. Грынкевіча адправілі на допыты ў Мінск. А ў канцы 1945 года пад Магілёвам расстралялі.

Лёс Ядвігі Грынкевіч склаўся па-іншаму. Ёй удалося выехаць у Польшчу, уладкавацца на працу і даць дзецям добрую адукацыю. Усё жыццё яна верыла, што яе муж жывы ў савецкіх лагерах, піша і друкуе артыкулы пад чужым прозвішчам. Сябры і знаёмыя не хацелі гаварыць ёй аб трагічнай гібелі Станіслава Грынкевіча, каб жанчына не губляла надзеі.

Памерла Ядвіга Грынкевіч ад рака лёгкіх у 1963 годзе ў Гданьскім універсітэцкім шпіталі. Дзеці яе не пайшлі па слядах свайго бацькі. Яны лічаць сябе палякамі і беларускімі справамі не цікавяцца...

Мне застаецца толькі спадзявацца, што імя Станіслава Грынкевіча ўсё ж будзе вернута ў гісторыю беларускай літаратуры, культуры і медыцыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# РОДНЫЯ, АЛЕ РОЗНЫЯ

Паважаная рэдакцыя!

Я беларус, нарадзіўся на Беларусі, але лёс наканаваў мне большую частку жыцця пражыць у Расіі. Трэба адзначыць, што так званыя "простыя людзі", якіх мы сустракаем штодзённа ў побыце (не бяруся казаць пра палітыкаў ды журналістаў), ставяцца да Беларусі станоўча, і я за доўгія гады (а мне ўжо хутка на пенсію) практычна не чуў чаго абразлівага ці непаважлівага ад іх. Рускія звычайна з задавальненнем слухаюць беларускую мову і іншы раз нават просяць прамаўляць па-беларуску.

Але даводзіцца чуць, асабліва ў апошнія гады, досыць датклівыя пытанні накшталт: "Вось мы бачым па тэлебачанню рэпартажы з Кіева і Мінска. Скажы, чаму украінскія прэзідэнты размаўляюць па-ўкраінску, а беларускі -- па-руску?" Зрусіфікаванасць беларусаў моцна шкодзіць іх аўтарытэту ў вачах расіянаў. Разбурэнне СССР расіяне ўспрымаюць як адыход "нацыянальных ускраін" ад Расіі, і, дарэчы, слушна ўспрымаюць, бо ў Саюзе рускія безумоўна былі гегемонам, і ва ўсім свеце гэта дзяржава лічылася рускай. Цяпер расіянам вельмі даспадобы, калі хто жадае вярнуцца ў саюз з Расіяй, але ў выпадку з Беларуссю настрой псуе залішняя зрусіфікаванасць беларусаў.

Мала гонару атрымаць сябру, які згубіў свае адметныя рысы, мову, нацыянальную годнасць. Іншая справа, калі б гутарка ішла, скажам, пра эстонцаў ці грузінаў. А тут здабытак для самазадавальнення невялікі. Таму я лічу, што вялікую памылку робяць тыя беларускія дзеячы, якія спадзяюцца зрабіць прыемнае рускім тым, што адстойваюць вядучую ролю рускай мовы на Беларусі. Хіба хто супраціў сяброўства? Але трэба нагадаць распаўсюджаны выраз: "Родныя, але розныя". Паверце майму шматгадоваму досведу: тыя дзеячы, што знішчаюць беларускасць, толькі губляюць свой прэстыж у расійскіх вачах.

**Алесь ДРАЯНКОЎ.**

Масква.

## З НОВАЙ КНІГІ У. ДУДЗІЦКАГА "НАПЯРЭЙМЫ ЖАДАНЬНЯМ"

# ШУКАЙЦЕ ВОЛІ ЛЯ РОДНЫХ СТРЭХ

Выдадзена нарэшце паэтычная спадчына Уладзіміра Дудзіцкага (1910--1972?), таленавітага беларускага паэта-эмігранта. Прэзентацыя кнігі "Напярэймы жаданьням" адбылася ў снежні 1994 года (Нью-Йорк, фундацыя П. Крэчэўскага). Гэта сапраўдны помнік паэту. Цяпер і мы можам прачытаць усё ім напісанае (першыя зборнікі, падрыхтаваныя У. Дудзіцкім пры жыцьці на Беларусі -- "Песьні і думы", "Напярэймы жаданьням" -- свету не ўбачылі) і выказаць вялікую падзяку стваральнікам гэтага тома. Вяртаецца спадчына паэта на Беларусь, якую ён любіў бязмежна, нягледзячы на тое, што яна была жорсткай, несправядлівай да яго, як і да іншых таленавітых сваіх сыноў, што ў час сталінскіх рэпрэсій былі вынішчаны, а многія, ратуючы ўласнае жыцьцё, пакідалі Радзіму, ішлі ў выгнанне.

І сёньня, калі ўчытваешся ў вершы, прозу, пераклады У. Дудзіцкага, то яскрава ўяўляеш, які гэта быў трагічны лёс! Чалавек, што да самазабыцця быў адданы Бацькаўшчыне, сэрцам, думкамі быў толькі з ёю, тут бачыў прымяненне сваім сілам, ведам і таленту, усё жыцьцё быў гнаны "клятым векам" і адчуваў "сьмяротнае зямлі чужой ярмо". Прысягнуў ён Бацькаўшчыне з маленства, ёй прысвяціў сваю творчасць. Гучаць у яго кнізе "Напярэймы жаданьням" тры асноўныя матывы: Маці, Родная мова, Беларусь. Такія матывы ўласцівыя ўсёй эміграцкай паэзіі, і гэта не проста даніна модным патрыятычным сюжэтам, літаратуршчыне, а галоўная тэма, што жывіць і натхняе душу творцы...

У паэзіі У. Дудзіцкага Бацькаўшчына і ўсё, што з ёю звязана, -- адзіная песня і шчырая радасць душы. Невылечны боль і пакуты. І не дзіва: тут, на гэтай зямлі, пачынаўся ягоны радавод, тут родная вёска Дудзічы, што за 40 кіламетраў ад Мінска, прывольна раскінулася на берагах Пцічы. У. Дудзіцкі вельмі любіў сваю маці, якая хораша сьпявала ("Помню ў час вечаровы пела мне маці калісьці -- песьні пра шчасьце і волю..."). Вершы ранняга перыяду творчасці У. Дудзіцкага (1929--1944) вызначаюцца не толькі горкімі ўспамінамі вязня (ён быў рэпрэсіраваны ў 1933 годзе), цяжкімі адчуваньнямі загубленай маладосці, але і замілаванасцю, знітаванасцю з роднай зямлёй, бясконцым захапленнем яе красой. І, перачытваючы іх, мы быццам любуемся "пажарам рабінавым", наяве бачым, як "восень гаспадарыць і цешыцца ў хаце", як "на красу апаленую кветак квола палі жоўтыя лісьці"... Але ўсё болей праз лірычныя радкі праступаюць ноты трывогі, усведамленне, што на радзіме яму "шлях святла і праўды свет зачынен"... Усё часцей яго наведвае тужлівае прадбачанне: "заўтра, пэўна, вятры закальшуць // на чужыне нялюбай мяне..."

Вершы, паэмы У. Дудзіцкага, напісаныя на эміграцыі (1944--1962) -- гэта духоўная споведзь выгнанніка, які пачаў жыць быццам у двух вымярэннях: душа і памяць лунаюць на Бацькаўшчыне, а спакутаванае цела, хоць і знайшло прытулак і ахову ў далёкіх краях, аднак не вытрымлівае болю і тугі да страты самага дарагога, што ёсць у жыцьці чалавека. Эміграцыя не ўнесла ў творчасць беларускага паэта новых сюжэтаў і матываў. Не прымала ягонае сэрца экзатычнай прыгажосці чужых краін, нават уладкаванага багатага жыцця. Ён ніколі не крывіў душою, не баяўся "пазіраць у вочы Беларусі", бо ні ў чым не быў вінаваты перад сваім народам. У сваіх творах ён паўставаў супраць "посніцы духу", імкнуўся ўзварушыць "сэрцы чэрствыя прагных людзей", даводзіў, што не багацце і слава, а гонар і годнасць вядуць чалавека па жыцці. Сваю задачу паэта У. Дудзіцкі бачыў не толькі ў тым, каб апяваць прыгажосць Радзімы, маліцца на яе, але і сілай мастацкага слова раскрываць яе пакутную і велічную гісторыю, лірай вольніцай, бы звонам, абуджаць сумленне, свядомасць суайчыннікаў, сьпяваць песьні жыцця агнявыя, "песьні працы і песьні змагання", выказваць свайго сэрца "боль сукрыты". Наогул, У. Дудзіцкага, як і многіх рэпрэсіраваных пісьменнікаў, што прайшлі дарогаю ГУЛАГа, і асабліва тых, хто вымушаны быў эмігрыраваць, незвычайна хвалявалі праблемы выжывання беларусаў ва ўмовах таталітарнай сістэмы, пошукі выйсця з палітычнага і культурнага заняпаду. Такія матывы ў іх творчасці паяднаны з нашымі сённяшнімі ідэямі нацыянальнага адраджэння. Пакалечаны дух народа, драма асіміляцыі -- гэтыя найбольш згубныя вынікі панавання чужой ідэалогіі балюча ўспрымаюцца ўсімі свядомымі суайчыннікамі. І многія вершы паэта быццам заклікаюць сучаснікаў апамятацца ("нельга далей скарацца"). І ўсё ж ён верыў, як верым і мы (а інакш жыццё не мае сэнсу), што ўваскрэсне Бацькаўшчына і прыйдзе пара "здабыткаў новых, сьветлых дзён -- пладоў уцешнай, рупнай працы..."

І яшчэ: ён пакінуў нашчадкам запавет, выпакутаваны ўласным лёсам. "Ля родных стрэх шукайце, дзэці, волі". Але паслухаем самога паэта.

**Лідзія САВІК.**

**Уладзімір ДУДЗІЦКІ**

### ЖЫВОЕ ПРАЎДЗІВАЕ СЛОВА

Нельга далей скарацца.
Ўпівацца прынесеным
і клясціся
да стомы
чужому у шчырасьці.
Гляньце:
Край наш цудоўны расьпялі
й павесілі
на крыжы апляваным...
Як зьдзек такі вынесьці!
Чую голас братоў:
"Жыць ня хочам так далей мы.
Хіба-ж лёгка
да сьмерці
быць ліху падлеглымі!
Маем сілу
і Край свой
з блакітнымі далямі,
ды ці варта,
скажэце,
быць белымі нэграмі!"

*1934.*

### ЛЯ РОДНАЙ БАЦЬКАЎСКАЙ МЯЖЫ

Ля роднай бацькаўскай мяжы
мне доля жыць прываражыла,
надзейна там я палажыў
учора сноп сваіх зажынак.

Ягоны стан перавязаў
удубальт моцным перавяслам.
З вачэй гарачая сьляза
на сноп упала -- не пагасла...

Сьцябло сатлее -- будуць жыць
зярняты -- буйныя крышталі,
ля роднай бацькаўскай мяжы
мяне калосьсем прывітаюць.

*Бэрлін, верасень 1944.*

### ЛІСТ ДА МАЦІ

Ліст гэты, матуля, ад меншага сына,
што лечыць тугу сваю
золатам лісьця...
Цяпер ані цешыць, ня вабіць
чужына,
як вабіла, помню, калісьці.

Яе уяўляў я, бы нешта сьвятое,
і заўжды паклон слаў
з пустэльных аддаляў.
Цяпер тую веру, што сэрца
мо' й тоіць,
аўстрыйскія ветры, відаць,
разгайдалі.

Жыву між чужых я, і голас вятраны
мне штосьці гаворыць, а што --
невядома...
Напэўна, пра тое, што край мой
забраны,
што радасьць расьпята ля роднага
дому.

Скажы мне, матуля, ці праўда
ўсё гэта!
Дайсьці аніяк не магу я да ладу.
Ці праўда, што восень
зьняважыла лета,
што песьні украдзены з нашага
саду!

О, чуў я, матуля, што ўчора ураньні
сяброў ахрысьцілі на вечны
спачынак,
што хворага брата на голым
майдане
крывая асіна зь сям'ёй разлучыла.

Ска[illegible] вятры мне, што ліха
ўсіх лашчыць --
братоў і сясьцёр,
і сяброў-аднагодак:
што ўсё аж да поўначы ходзіце
нашча
ля рэчак крывёю апырсканых
водаў.



Рэчка Пціч каля Дудзічаў. Фота Міхаіла ХАМЦА.

Адведаць Цябе не магу я
сягоньня,
а слову, якім-бы яно ні было
там,
нялёгка дайсьці да спустошаных
гоняў
і ўняць іхны плач і штодзённы
твой клопат.

Ня плач, ня журыся! Даруй
свайму сыну,
што лечыць тугу пакуль
золатам лісьця.
Цяпер ані цешыць, ні вабіць
чужына,
як вабіла, помню, калісьці.

*Зальцбург, кастрычнік 1945.*

### АПОШНЯЯ МАЛІТВА

Яшчэ раз кленчу я ля сьценаў
Храма:
-- О Божа, Валадар зямлі,
скажы Ты,
чаму ізноў каля Сьвятое Брамы
жывое цела бачым на
крыжы тым!..

На пліты мармуровыя сьцякае
кроў сьвежая із ран балючых...
Пустэльнік пом[illegible]івы --
[illegible]кольнік Каін --
чало сьціскае ў[illegible] вянком
калючым.

Па-над бажніцамі, над купаламі
у стоме чорныя стварэньні
кружаць.
Няверцы прыш[illegible]я у грэшнай
краме
ля ног згінаюц[illegible] халодным
вужам...

Нялюдскі танец свой згібеньне
грае
на струнах д'ябальскіх да
сьлёз, да ўмору...

Хіба ўжо гэтакая доля Краю,
табой ахрышчаная ў момант
створу!

Ўпаду лепш сам я каля сьценаў
Храма,
і там апошняя малітва будзе:
"Браты і сёстры, пад Сьвятою
Брамай
зямлёю роднаю прыкрыйце
грудзі!"

*Лістапад 1945.*

### РОДНАЕ СЛОВА

Я ня жыў безь цябе.
Шанаваў і сьцярог,
лашчыў ласкай
і казкай лясною,
каб не ўмерла,
крый Божа,
ля чорных дарог
Беларускае
роднае слова.

Ня згінайся, малю я,
расьці і жыві.
Будзь і сокам,
і звонам вясновым,
але ў сэрцы маім,
у іскрыстай крыві --
Беларускае роднае слова!

Кожным гукам зьвіні,
пладзі песьню-красу.
Ты --
жыцьця майго
скарб і аснова!
Як малітву, цябе
у сусьвет панясу --
беларускае роднае слова!

*Сьнежань 1962.*

### ПЯКЕЛЬНЫ ДАР

У новы край, далёкі і нязнаны,
з пакункам дум --
тугой набраклых мар --
нясу гадоў ліхіх пякельны дар --
скамененую горам немач раны.

Няўцешныя пэйзажы і экраны --
змардаваны зямлі пакутны твар.
На тло крыжоў -- глыбокі
сьлед ахвяр --
мятуць віхры жарствы пясок
каляны.

Губляецца ружовы небасхіл,
і пляміцца нябёс блакітны полаг.
У зьвівах хмар, над сумнішчам
магіл,
калышацца агнёў трывожны
сполах...

Нялёгкі шлях із пекла па касьці,
а мне-ж ісьці... Далёка 'шчэ ісьці...

*1947.*

### 6. НЯПОСЛУХУ ДЗІВАЦКАГА САКРЭТ

Патоляй сьвет ня лашчыў нас ніколі,
і прыкрым быў чужы ля хаты сьлед.
"Ля родных стрэх шукайце, дзеці,
волі", --
пакінуты вучыў нас запавет.

А мы пайшлі-такі у белы сьвет
пад націскам нясьцерпнай гідкай
голі...
Як гнеў раба, сьціскаецца ад болю
няпослуху дзівацкага сакрэт.

І ганьбіцца зямлі ружовы цьвет,
зьнішчаецца на зыбкіх плынях золі...
Які-ж пакінем дзецям запавет,
пакутнікі зьняверанья долі!

Паўторым нешанованы, а мо'...
...Сьмяротнае зямлі чужой ярмо.

*Вэнэцуэля, сакавік 1954.*

# МАЕ ДЗЯДЫ І РАДАЎНІЦЫ

У кожны прыход я адведваў магілу Ігнатоўскага. З першых школьных дзён я ведаў гэтае імя. Яго партрэты віселі ў кожным класе -- выдатны вучоны, нарком асветы, першы прэзідэнт Акадэміі навук, легендарны партызан у гады белапольскай акупацыі. Напісаная ім гісторыя запала ў душу на ўсё жыццё. Помніліся і разгромныя артыкулы ў маскоўскіх газетах пра першую сесію Акадэміі навук БССР. У іх безапеляцыйна абвінавачвалі першага прэзідэнта акадэміі ў "махровым нацыяналізме", бо ў фае сесіі стаялі бюсты "какого-то Скорины и бунтаря против России Калиновского". І пачалося мардаванне Ігнатоўскага апрычнікамі партыйнага кіраўніцтва і чэкісцкімі катамі. Яны падштурхнулі, а можа і дапамаглі скончыць жыццё самагубствам. Фальсіфікатараў і прыстасаванцаў палохала праўдзівая "Гісторыя Беларусі". Яны ведалі, что сапраўдны вучоны не пастуліцца праўдаю, і даканалі яго.

На магіле з'явіўся невялікі, завостраны пірамідкаю помнік з першым на той час надпісам па-беларуску: "Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі, 1/V -- 1881 -- 4\II -- 1931г." Божа мой! Было яму толькі пяцьдзесят гадоў.

Старэйшы сын ведаў, што яго чакае, і з'ехаў у Сібір, абодва малодшыя, каб неяк існаваць, пайшлі рабочымі на завод імя Варашылава. У 1936 годзе пачалося чарговае і радыкальнае выкарчоўванне "контрреволюционных националистов", ставивших своей целью отторжение Советской Белоруссии и присоединение ее к капиталистической Польше". Гэтае стандартнае сачыненне малапісьменных следчых упісвалася ў тысячы пратаколаў, запырсканых крывёю самых сумленных пакутнікаў. І мяне, неаперанага юнака, на тры месяцы закінулі ў адзіночку страшэннай "амерыканкі". Я чуў, як праз дзве камеры грукаў у жалезныя дзверы і нема выў Цішка Гартны, як галасілі да крыві спаласаваныя жанчыны, а іх валаклі ў падзямелле залітых вадою карцэраў.

У агульнай камеры я апынуўся з худзенькім бялявым юнаком з бародкаю Ваням Шумскім. Яго забралі па "справе" Юркі і Валянціна Ігнатоўскіх, да іх далучылі таксама маладога рабочага Більдзюкевіча і абвінавацілі ў падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў супроць Гікалы, Чарвякова і Галадзеда. Іх ламалі, пакуль яны не "прызналіся" і не падпісалі сабе фактычна смяротны прысуд. Яны з жахам чакалі Ваенную калегію і свайго апошняга дня. З Ваням Шумскім мы спалі побач, і ён бажыўся, што ніколі, як і яго сябры, не трымаў у руках нават пугача. Сыны Ігнатоўскага ведалі, што іх мардуюць за бацьку, а за што іх сяброў? Неабходна была "арганізацыя".

Праз некалькі дзён следчы выклікаў Шумскага. Ён хутка вярнуўся. Ледзь не ўся камера хорам спытала: "Ну што?" Іван падняў рукі: "Ура! Мы жывем. Тэрор замянілі "парушэннем пашпартнага рэжыму". Максімальны тэрмін -- пяць гадоў". Неўзабаве іх выклікалі на этап, і я нічога не ведаў пра іх лёс.

Вярнуўшыся праз 20 гадоў у Мінск, распытваў у вызваленых лагернікаў, ці не сустракалі дзе сыноў Ігнатоўскага. Ніхто нічога не ведаў пра іх і пра Ваню Шумскага. Магіла Усевалада Макаравіча была закінутая і забытая. Значыць, нікога з блізкіх няма. Аднойчы веснавым надвячоркам немаладая жанчына зграбала з магілы леташняе лісце, збіралася садзіць белыя і ружовыя маргарыткі. Я павітаўся і запытаў, ці не радня яна часам Усевалада Макаравіча. "Не, -- адказала яна па-беларуску. -- Я яго ведала яшчэ студэнтам Юр'еўскага універсітэта. Летам ён прыязджаў дамоў, уся моладзь збіралася вакол яго, спявалі песні, ладзілі вечарынкі і ставілі спектаклі. Які гэта быў чалаве-е-ек! Я часам адведваю гэтую забытую магілу і даглядаю яе. Божа ж мой, колькі часу прайшло! Ніколі не думала, што так скончыцца жыццё та-акога чалавека". Пра родных Усевалада Макаравіча і яна нічога не ведала.

Аднаго разу ўбачыў звалены помнік, відаць, дужым бацьбітом за ідэйную чысціню марксізму з "нацыяналухілістам", як сведчыць "Беларуская савецкая энцыклапедыя" (том 5, ст. 44). Пнуўся прыўзняць, не падужаў. Неяк сустрэў супрацоўніка Акадэміі навук Васіля Жураўлёва, папрасіў сабраць некалькі маладых навукоўцаў і паставіць на месца помнік іхняга першага прэзідэнта. Не ведаю, яны ці хто іншы помнік паставілі. А калі крышку змяніўся палітычны клімат, побач з першым з'явіўся новы гранітны помнік з бронзавым гарэльефам нябожчыка і пазалочаным надпісам-эпітафіяй першаму наркому асветы і прэзідэнту Акадэміі навук Усеваладу Макаравічу Ігнатоўскаму. Цяпер упрытык стаяць два помнікі -- сведкі двух розных часоў, флюгерства палітыканаў з гарышча ўлады. Колькі жыву, дзе ні быў, ніколі не бачыў на адной магіле два розныя помнікі. Першы -- абвінавачванне тым, хто знішчыў такога Вялікага сына Беларускай зямлі. Часта і падоўгу стаю з непакрытаю сівою галавою і думаю пра ўваскросшую памяць Усевалада Макаравіча. Недзе за сумленне ў паўночнай да... склалі галовы і яго сыны.

Іду па сцежцы трошкі далей, зварочваю налева да ардынарнага чорнага помніка Аляксандру Рыгоравічу Чарвякову. Я яго бачыў і чуў толькі на адлегласці. Да 1933 года, пакуль будаваўся Дом да, Цэнтральны выкана... камітэт займаў на плошчы Волі беленькі двухпавярховы дамок колішняга губернскага праўлення. Да рэвалюцыі ў ім жыў генерал-губернатар, а на першым паверсе сядзела каля дваццаці чыноўнікаў. І ўвесь штат!

У ЦВК на чале з Чарвяковым наўрад ці больш было супрацоўнікаў. З работы Аляксандр Рыгоравіч звычайна павольна ішоў пехатою па Ленінскай вуліцы, спыняўся з знаёмымі, заходзіў у крамы, часам станавіўся ў чаргу. Калі яму прапаноўвалі прайсці наперад, дзякаваў і заставаўся на месцы. Чарвякова ведала і любіла ўся Беларусь, людзі верылі кожнаму яго абяцанню і слову, да яго ішлі хадакі са сваімі клопатамі і скаргамі, ён стараўся кожнаму дапамагчы, прыняць і выслухаць кожнага.

Толькі пасля "загадкавага" і каварнага забойства Кірава і ў мясцовых карнікаў з'явілася ахова. І Чарвякова "пасвілі" двое маладых мужчын у цывільным. Жонка Аляксандра Рыгоравіча ў сваёй кватэры ўзначальвала карэспандэнцкі пункт газеты "Известия". Пад яе началам працаваў малады і здольны журналіст Уладзімір Мяжэвіч. Праз пакутныя гады з Уладзімірам Навумавічам мы сталі напарнікамі на лесапавале і потым сябравалі да яго апошніх дзён у 1982 годзе. Ён часта ўспамінаў свае паездкі з Чарвяковым па раёнах і вёсках, расказваў, як гарнуліся да яго людзі, як ён стараўся кожнаму дапамагчы. А дома дапазна гулялі ў шахматы, потым разам праз чорны ход непрыкметна ўцякалі ад ахоўнікаў і гулялі па апусцелай вуліцы Карла Маркса.

Стоячы каля помніка, успамінаю і тую старонку "Звязды", што некалі трапіла ў нашу камеру. На ёй былі матэрыялы XVI надзвычайнага з'езда КП(б) Беларусі і выступленне дырэктара Інстытута гісторыі партыі прафесара Пасэ. Ён абвінавачваў Чарвякова ў нацыяналізме, у шпіянажы на карысць Польшчы і патрабаваў суровай кары. Чарвякоў моўчкі сядзеў у прэзідыуме. Новы сакратар ЦК Шаранговіч абвясціў перапынак на 15 хвілін.

Неўзабаве новенькія, толькі што ўкінутыя ў нашу камеру расказвалі, што нібыта Чарвякоў пайшоў у свой кабінет і там застрэліўся. Хавалі яго ў маленькай залі клуба харчавікоў, што быў на вуліцы Энгельса, жадаючых развітацца не падпускала міліцыя. Пасля "таемнага" пахавання без следства і без суда сям'ю Чарвякова выслалі ў глуш казахстанскіх стэпаў.

Пасля рэабілітацыі ў 1956 годзе я сустрэўся з сваім былым напарнікам і брыгадзірам на шостым лагпункце Уладзімірам Мяжэвічам. Яго аднавілі ў партыі і ўзялі на пасаду карэспандэнта па Беларусі маскоўскай газеты "Лесная промышленность". Па рабоце ён часта бываў у Міністэрстве лясной гаспадаркі. Аднойчы ўсхваляваны Уладзімір Навумавіч паклікаў мяне на праходку па ўзбярэжжы Свіслачы. Азіраючыся і прыцішана пачаў расказваць, што ў Міністэрстве выпадкова сустрэў былога ахоўніка Чарвякова (праз гады прозвішча забылася). З ім Мяжэвіч быў добра знаёмы з часоў карэспандэнцтва ў "Известиях". Абодва ўзрадаваліся сустрэчы. Уладзімір Навумавіч пацікавіўся, што здарылася з Чарвяковым у той ліпеньскі дзень 1937 года. Суразмоўнік прапанаваў выйсці на лесвічную пляцоўку. Расказваў, што ў часе з'езда яны, абодва ахоўнікі Чарвякова, сядзелі за сцэнай. Пасля крытыкі Старшыні ЦВК быў абвешчаны кароткі перапынак і Чарвякоў накіраваўся ў свой кабінет, другі ахоўнік адразу падняўся і пайшоў следам за Аляксандрам Рыгоравічам. У Доме ўрада неабавязкова было ісці ўдваіх.

Перапынак зацягнуўся амаль на гадзіну. Дэлегаты хваляваліся. Старшыня з'езда абвясціў, што Чарвякоў пакончыў жыццё самагубствам. Другі ахоўнік кінуўся да кабінета, але ён быў апячатаны, не было і яго напарніка. Не з'явіўся ён ні праз месяц, ні праз год. Тады ж ва ўстанове, якой падпарадкоўваліся ахоўнікі, Мяжэвічавага напарніка папярэдзілі ніколі не распытваць пра яго таварыша па службе, які праводзіў у кабінет Чарвякова. Праўда гэта ці версія былога ахоўніка, праверыць цяпер цяжка, а, бадай, і немагчыма. Мяжэвіч мне пераказваў размову з мноствам падрабязнасцяў, якія і цяжка, і няма патрэбы ўзнаўляць.

Я амаль ніколі не мінаю магілу колішняга народнага любімца, першага ўсебеларускага старасты. Да нядаўняга часу на помніку быў самы кароткі надпіс: "Червяков Александр Григорьевич 1892--1937". Чытаю, і аж не верыцца: было яму толькі 45 гадоў. Успамінаецца яго сярэдняга росту постаць, круглы твар, праніклівыя чорныя вочы, выразная і вобразная беларуская мова. Толькі нядаўна пасля ўсіх "адліг" зверху помніка выбіта: "Выдающийся партийный и государственный деятель. Прдседатель ЦИК СССР и БССР". Сустрэчы з дачкою і ўнукам Чарвякова многае адкрылі ў лёсе гэтай шматпакутнай сям'і.

Больш за паўстагоддзя спатрэбілася, каб сказаць хоць на помніку праўду пра адданейшага сына беларускага народа -- Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова. Нават пасля вайны з глухіх палескіх вёсак часам прыязджалі ў сталіцу пакрыўджаныя людзі і дапытваліся, як ім трапіць да Чарвякова. "Дасціпнікі" раілі ім ісці на Вайсковыя могілкі.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**Працяг. Пачатак у №№ 18, 19.**

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

У часы першай імперыялістычнай вайны рушылі на ўсход і жылі ў Яраслаўлі, потым у Вятцы, Арлове і са сканчэннем яе вярнуліся ў Рэчкі.

Бацька на пачатку вайны скончыў ваеннае вучылішча ў Чугуеве (цікава, што там вучыўся і Рыгор Шырма ў гэты час) і знаходзіўся на фронце, у сувязі з чым дзед Фадзей жартаваў: "Бацькі ў салдатах, а ў дзяцей кашулі ў латах", "Лепей касою дома касіць, чым у войску ранец насіць", "Гора наша -- аржаная каша, з'еў бы і такой, ды няма дома ніякой!" Але дзед быў спраўным гаспадаром, таму баба Ефрасіння яго падхвальвала: "Калі ёсць дзед -- будзе і абед, а няма дзеда -- няма і абеда". Весялела заўсёды ў хаце пасля частых вандровак дзеда Фадзея ў Новы Пагост: "Еш хлеб траякі: чорны, белы і ніякі", "Глядзі, шчака шчаку з'есці хоча". Яшчэ больш павесялела, калі з вайны ў кароткім абшарпаным шынялі з'явіўся худы бацька Іван, але неўзабаве зноў знік, бо ў Новы Пагост прыйшлі немцы. Вярнуўся ён ужо толькі пасля заключэння мірнага пагаднення ў 1920 годзе, калі заходняя частка Беларусі стала часткай Рэчы Паспалітай. Ён быў вельмі задаволены, што маці-настаўніца займалася хатняй адукацыяй Генадзя і яго малодшага брацікa Алеся.

Песеннай настаўніцай Генадзя была бабуля, бо ведала мноства песень, але строга прытрымлівалася традыцыйнага мастацкага правіла: вясною спявала веснавыя, ле... -- летнія, восенню -- вос...кія, зімою -- зімовыя песні. Можа гэта і нарадзіла выдатнага фалькларыста -- музыказнаўцу Генадзя Цітовіча, калі бабуля сваім чыстым грудным, падымаючы на кожнай музычнай частцы, голасам спявала:

**-- Ой, што ў садзе ляпеіцца,**
**Ці не бель там бялеіцца!**
**-- Ой, не бель то бялеіцца,**
**Не макаўка чырванеіцца.**
**Дачка ў мамкі красуецца,**
**Па зялёным садзе ходзючы.**

Амаль на кожны вечар у яе былі новыя песні, якія асабліва многа спявала за кудзеляй. Скончыўшы адну, колькі часу сядзела нерухома, як бы ў стане падсвядомасці яшчэ прадаўжала ў душы жыць песняй, як бы даючы слухачам магчымасць атрымаць асалоду ад яе ўнутранага свету, прыгажосці, а потым заводзіла новую. І так часам да ранку. Пазней Генадзь Цітовіч сведчыў, што пасля такіх вячорак неяк святочна было на душы, хацелася рабіць людзям дабро, стаць лепшым, дабрэйшым да людзей.

Бацька-настаўнік, тым больш праваслаўнага веравызнання, канешне не мог вучыць дзяцей у часы паланізацыі ў Заходняй Беларусі. Праваслаўная ж царква была фактычна **ў тых умовах** асяродкам, які абараняў беларусаў ад дэнацыяналізацыі.

Пасля доўгага роздуму Іван Цітовіч выбірае вельмі правільнае рашэнне: здае іспыты за поўны курс семінарыі і становіцца святаром у маленькім прыходзе. Напачатку нават сын пойдзе яго дарогай.

## ГАДЫ СЕМІНАРСКІЯ

Адзінай навучальнай установай, дзе не патрабавалі абавязковага ведання польскай мовы і якая, што асабліва важна, сама ўтрымлівала сваіх выхаванцаў, была праваслаўная семінарыя, што месцілася ў знакамітых Базыльянскіх мурах у Вільні. Сюды восенню 1924 года Іван Цітовіч прывёз свайго сына, які, дзякуючы стараннямі маці, здаў экзамены за два першыя класы і стаў выхаванцам трэцяга класа Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі. Тут і адбылася сустрэча двух будучых выдатных фалькларыстаў Беларусі, аб чым Цітовіч у наш час напісаў сам:

-- Неяк у нядзелю, пагодным восеньскім днём, я выбраўся з семінарыі і блукаў вузенькімі віленскімі вулачкамі. Пад нагамі шастала апаўшае лісце. Успаміналіся далёкія Рэчкі, бацька, маці, дзед, баба. На душы было маркотна, хацелася пабачыць вясковых сяброў, зноў апынуцца ў роднай хаце, пачуць знаёмыя спевы.

І нібы ў адказ на мае думкі з напаўадчыненага акна раптам палілася песня, за ёй другая, трэцяя.

**(Працяг будзе).**

**НА ЗДЫМКУ:** хата ў Лужках, дзе да апошніх дзён жыў **І. ЦІТОВІЧ.**



